КУЛЬТПРОП ЦК КП(б)Б
ПРАГРАМНА-МЭТАДЫЧНАЕ БЮРО.

# МЭТАДЫЧНЫЯ ДАПАМОЖНІКІ
## для партасьветы

№ 1 МАЙ 1931 г. ВЫД. ДОМУ КАМАСЬВЕТЫ.

## НАРАСТАНЬНЕ ПРАДПАСЫЛАК РЭВАЛЮЦЫЙНАГА КРЫЗІСУ І ЧАРГОВЫЯ ЗАДАЧЫ КАМПАРТЫЙ

### (ВЫНІКІ XI ПЛЕНУМУ ВККІ)

*Тэма разьлічана на 8 гадзін*

### МЭТА ТЭМЫ:

1. Паказаць, што эканамічны крызіс, які адбываецца на фоне агульнага крызісу капіталізму і на фоне завяршэньня фундаманту сацыялістычнай эканомікі СССР, і які ўсё паглыбляецца—прыводзіць да нарастаньня прадпасылак рэвалюцыйнага крызісу ў радзе краін капіталізму.

2. Паказаць, што супярэчнасьць паміж загніваючай сыстэмай капіталізму і СССР абвастрае, як ніколі, небясьпеку контр-рэвалюцыйнай вайны супроць СССР.

3. Высьвятліць ролю с.-дэмакратыі, як галоўнай сацыяльнай апоры буржуазіі ў яе наступленьні на рабочую клясу, падрыхтоўцы інтэрвэнцыі супроць СССР, прыдушэньні рэвалюцыйнага руху ў калёніях.

4. Паказаць, што хутчэйшае пасьпяваньне рэвалюцыйнага крызісу і ператварэньне яго ў крах капіталізму на даным этапе залежыць перш за ўсё ад суб'ектыўнага фактару—ад здольнасьці кампартый самастойна кіраваць клясавымі баямі пралетарыяту. На грунце гэтага паказаць канкрэтныя задачы, якія стаяць перад кампартыямі.

## ПЛЯН ТЭМЫ:

I. Далейшае абвастрэньне ўсеагульнага сусьветнага эканамічнага крызісу ў капіталістычных краінах і завяршэньне фундаманту сацыялістычнай эканомікі СССР.

II. Абвастрэньне супярэчнасьцяй унутры капіталістычнага лягеру і паміж капіталістычнымі краінамі і СССР.

III. Рост пагрозы вайны і падрыхтоўка інтэрвэнцыі супроць СССР.

IV. Нарастаньне прадпасылак рэвалюцыйнага крызісу ў радзе капіталістычных і каленіяльных краін.

V. Сацыял-дэмакратыя, як галоўная сацыяльная апора буржуазіі.

VI. Чарговыя задачы кампартый і барацьба на 2 фронты.

**Матар'ял для прапагандыста.**

I.

Характарыстыку сусьветнага ўсеагульнага эканамічнага крызісу неабходна разьбіць на дзьве часткі: характарыстыку далейшага паглыбленьня прамысловага крызісу і вынікаючае адсюль пагоршаньне становішча рабочае клясы; характарыстыку аграрнага крызысу і адсюль—пагоршаньня становішча шырокіх працоўных сялянскіх мас.

„Разьвіцьцё прамысловага крызісу знаходзіць сваё выяўленьне: а) у бязупынным скарачэньні вытворчасьці; б) у рэзкім звужэньні спажываньня і ўнутранага рынку ў выніку зьбядненьня шырокіх народных мас; в) у вялізарным скарачэньні замежнага гандлю"—(Рэзалюцыя пленуму).

Зьмяншэньне прадукцыі прамысловасьці ў параўнаньні з максымальнай прадукцыяй перад крызісам складае да пачатку 1931 году ў процантах:

| | Уся прамысловасьць | Вугаль | Чыгун | Сталь |
|---|---|---|---|---|
| ПАЗШ . . . . . | 38 | 35 | 57 | 60 |
| Англія . . . . . | 21 | 25 | 49 | 62 |
| Гэрманія . . . . | 33 | 27 | 49 | 50 |
| Францыя . . . . | 7 | 16 | 14 | 17 |
| Польшча . . . . | 56 | 21 | 52 | 36 |

„Крызіс зьяўляецца самым сур'ёзным і самым глыбокім крызісам" у гісторыі капіталізму (Сталін).

„У Гэрманіі па афіцыйных падліках, скарачэньне выплаўкі чыгуну, падзеньне курсаў акцый, ліку занятых у вытворчасьці ў 1929-30 г. быў у 3—5 разоў значней, чымся ў час крызісаў 1907-1908 г. і 1900 г.".

„Сума банкруцтваў у 1930 г. у ПАЗШ складала 1.485 мільёнаў дол., у той час, як максымальная лічба банкруцтваў — за апошнія 30 даваеных гадоў складала 382 млн.“

Пасьля разбору гэтага пытаньня перайсьці да высьвятленьня таго, як крызіс адбіўся на становішчы рабочае клясы.

Буржуазія імкнецца пералажыць на працоўных усе вынікі крызісу. Лік беспрацоўных дасягае 35 млн. (ня лічучы мільёнаў беспрацоўнага сельска-гаспадарчага пралетарыяту, асабліва ў калёніях і паўкалёніях), павялічваецца рабочы дзень і зьніжаецца зарплата занятым рабочым.

„Нават Бэрлінскі коньюнктурны інстытут адзначае ў адным з сваіх аглядаў, што зьніжэньне прыбыткаў рабочае клясы ў 1929-30 г. у 4—5 разоў перавышае зьніжэньне ў час крызісаў 1907-8 г. і 1900 г. („Правда“ 1/V-31 г.).

„Па вылічэньні вядомага вучонага статыстыка Кучынскага пакупацельная здольнасьць нямецкага рабочага складае каля 70% пражытачнага мінімуму, а для раду катэгорый (тэкстыльшчыкі і інш.)— каля 50%“ („Правда“ 1/V-31 г.).

„Паводле амэрыканскіх статыстычных даных рабочыя страцілі за першыя 9 мес.1930 г. 9 млрд доляраў у выніку зьніжэньня зарплаты і пераходу на скарочаны рабочы тыдзень. Калі яшчэ дадаць страту ў заработках беспрацоўных, дык гэта сума за цэлы год дасягне 17 млрд. дол., гэта ёсьць трэцяя частка прыбыткаў рабочае клясы“.

„Паводле буржуазных статыстычных даных пражытачны мінімум сям'і ў 5 чал. роўны 1.700 дол. у год. Між тым, у штаце Алабама батрак можа ў лепшым выпадку зарабіць 300 дол. пры ўмове, калі ён будзе мець працу ў працягу ўсяго году“.

„У Шыльтале (Румынія) максымальны месячны заработак зямлякопа—1200 лей (15 руб.)

„Рэальная зарплата гішпанскіх рабочых у сучасны момант на 45% ніжэй даваеннай“.

У Гэрманіі „урад Брунінга выпрацаваў цэлаю праграму зьніжэньня зарплаты і пачаў са ўсёй энэргіяй праводзіць яе ў жыцьцё: зарплата бэрлінскіх мэталістаў была зьніжана на 8%, мэталістаў Паўночна-Заходняй Гэрманіі на 10%. Зьдзельныя стаўкі мэталістаў зьніжаны на 30%, а мансфельцкіх рабочых—на 12% і г. д. Прафсаюз тэкстыльных рабочых прымушаны канстатаваць, што ў тэкстыльнай прамысловасьці зарплата фактычна зьніжана на 50%“ („Правда“) 5/IV-31 г.

Побач з гэтым манапольныя аб'яднаньні затрымліваюць зьніжэньне раздробных цэн, што яшчэ больш абвастрае становішча працоўных мас.

Прывесьці слухачоў да вываду, што зьбядненьне пралетарскіх мас у сваю чаргу садзейнічае далейшаму абвастрэньню як прамысловага крызісу, так і крызісу аграрнага.

Пасьля гэтага перайсьці да характарыстыкі далейшага абвастрэньня аграрнага крызісу.

„Сусьветныя цэны зьнізіліся ў параўнаньні з максымумам 1929 г. на пшаніцу—на 69%, на бавоўну—50%, на каву — 70% і г. д. пры аднвачасовым вялізарным узрастаньні запасаў“.

„Сусьветныя запасы пшаніцы старога ўраджаю да моманту новага збору будуць складаць рэкордную лічбу ў 120 млн. квінталаў*) супроць 114 млн. у 1930 г. і 34 млн. у 1926 г.“

„Фэрмэры ПАЗШ у 1930 г. за той-жа ўраджай, што ў 1929 г. атрымалі на 10,8 мільярдаў марак менш. Прычым цэны на сельскагаспадарчыя прадукты падаюць хутчэй, чым прамысловыя цэны, якія штучна затрымліваюцца манапольнымі аб‘яднаньнямі“.

Засуха ў радзе штатаў ПАЗШ у 1930 г. прывяла да літаральнай галадоўкі і гэта побач з наяўнасьцю 250-275 млн. бушаляў**) экспартных лішкаў пшаніцы ў краіне, побач з такім становішчам, калі пшаніцай апальваюцца паравозы. Да гэтага трэба дадаць вялізарную запазычанасьць сялянства і рост падаткаў (як на рабочых, так і на сялян), якія выкліканы ў значнай ступені патрэбамі мілітарызму.

Усё вышэйпаказанае прыводзіць да руйнаваньня мільёнаў дробных і сярэдніх фэрмэраў у Амэрыцы і Эўропе. Асабліва пагоршылася становішча сялянскіх мас у калёніях і паўкалёніях, дзе сялянства знаходзіцца пад двайным уціскам сваіх памешчыкаў, растоўшчыкаў, буржуазіі і чужаземных імпэрыялістаў.

Так, у Кітаі лік галадаючых у 1930 г. дайшоў да 71 млн. чал.

Паказаць, што абвастрэньне аграрнага крызісу і зьбядненьне шырокіх сялянскіх мас у сваю чаргу, скарочваючы рынак, садзейнічае далейшаму абвастрэньню і прамысловага крызісу.

Прывесьці слухачоў да вываду, што ня гледзячы на тое, што крызіс пачаўся амаль 2 гады таму назад, вышэйшы пункт крызісу яшчэ не дасягнуты і крызіс працягвае паглыбляцца.

Загніваньню капіталістычнай гаспадаркі супроцьставіць росквіт вытворчых сіл у СССР, які ў III годзе пяцігодкі завяршае пабудову фундаманту сацыялістычнай эканомікі, дзе бязупынна паляпшаецца становішча рабочых і працоўнага сялянства, дзе калгаснае сялянства стала ўжо моцнай і трывалай апорай рабочае клясы ў справе пабудаваньня сацыялізму, дзе ліквідуецца кулацтва, як кляса, на базе суцэльнай калектывізацыі.

На падставе гэтага аналізу прывесьці слухачоў да разуменьня наступнай вытрымкі з рэзалюцыі XI пленуму ВККІ.

„Супярэчнасьці паміж капіталістычнай і сацыялістычнай сыстэмай ніколі не разьвіваліся з гэткай сілай, і перавагі сацыялістычнай сыстэмы перад сыстэмай капіталістычнай, ніколі яшчэ ня ўскрываліся так навочна, як цяпер. Са ўсёй яскравасьцю выявілася несастаяцельнасьць сыстэмы капіталістычнай гаспадаркі, якая грунтуецца на эксплёатацыі і нявольніцтве і якая падпарадкавана рыначнай канкурэнцыі,

*) Квінтал—100 кгр=$^1/_{10}$ тоны=6,1 пуда.
**) Амэрыканскі бушаль пшаніцы=27,22 кгр=1,66 пуда.

і пераважнасьць плянавай сыстэмы сацыялістычнай гаспадаркі, якая грунтуецца на аграмаджаньні сродкаў вытворчасьці, на зьнішчэньні эксплёатацыі, на сыстэматычным уздыме матар'яльнага і культурнага ўзроўня працоўных".

„Разьвіцьцё клясавай барацьбы ва ўмовах далейшага разгортваньня сусьветнага эканамічнага крызісу ставіць самыя шырокія працоўныя масы перад рашаючым выбарам, або дыктатура буржуазіі, або дыктатура пралетарыяту".

## II.

Паказаць, што крызіс пры наяўнасьці вялізарных запасаў тавараў, пры скарачэньні ўнутранага рынку ў кожнай краіне, пры вялізарнай недагрузцы вытворчага апарату (бязьдзейнічае 40-60% вытворчага апарату капіталістычнай прамысловасьці) ня можа ня прывесьці да яшчэ большага абвастрэньня супярэчаньняў паміж капіталістычнымі краінамі ў барацьбе за рынкі, за калёніі, за „сфэры ўплыву", за новы перадзел сьвету.

Ужо ідзе абвостраная мытная вайна. Кожная краіна імкнецца абмежавацца сама, або ў саюзе з другімі (Гэрмана-Аўстрыйскі мытны саюз, „імпэрская канфэрэнцыя" Англіі і яе даміньёнаў), высокімі мытнымі тарыфамі ад завозу замежных тавараў, сама-ж адначасова ўжывае палітыку „дэмпінгу": высокіх цэн на экспартныя тавары на ўнутраным рынку, нізкіх „бросовых" на міжнародным рынку.

Так, прыкладна, у Гэрманіі экспартныя цэны на гатунковае жалеза зьнізіліся на 23%, унутраныя—толькі на 3%.

Адначасова ідзе нябачны рост узбраеньняў і дыплёматычнай (цэлы рад згод) падрыхтоўкі да новай вайны.

Паказаць, што небясьпека вайны вынікае ня толькі з супярэчнасьцяй паміж капіталістычнымі краінамі, што капіталісты могуць шукаць выхаду ў вайне і з астатніх супярэчнасьцяй капіталізму: паімкнуцца папярэдзіць і задушыць у час імпэрыялістычнай вайны рэвалюцыйны рух у капіт. і калёніяльных краінах.

Разабраўшы асноўныя супярэчнасьці паміж імпэрыялістычнымі краінамі Амэрыкай і Англіяй у барацьбе за сусьветную гегемонію, паміж Францыяй і Гэрманіяй у барацьбе за перагляд пляну Юнга, паміж Францыяй і Італіяй за ўплыў на ўзьбярэжжы Сярэдняземнага мора, паміж Гэрманіяй і Польшчай (барацьба за перагляд меж: польскі карыдор), прывесьці слухачоў да вываду, што „імпэрыялістычная палітыка буржуазнай дыктатуры, абвастраючы ўсе супярэчнасьці сусьветнай імпэрыялістычнай сыстэмы, ствараючы паўсюды „очагі" новых ваенных канфліктаў вядзе нямінуча да новых страшэнных імпэрыялістычных войн". (Рэзалюцыя)

## III.

Пераходзячы да пытаньня аб падрыхтоўцы інтэрвэнцыі супроць СССР перш за ўсё паказаць, што хаця і „павялічваецца небясьпека

ваенных канфліктаў, паміж імпэрыялістычных дзяржаў, але рост супярэчнасьцяй інтарэсаў імпэрыялістаў не паслабляе, а наадварот абвастрае небясьпеку інтэрвэнцыйнай вайны супроць СССР".

Паказаць, што гэта вайна будзе адначасова імпэрыялістычнай (барацьбой за ўключэньне расійскага рынку ў сыстэму капіталізму) і контр-рэвалюцыйнай (вайна за зьнішчэньне дыктатуры пралетарыяту і рэстаўрацыю капіталізму ў СССР).

Адсюль яскрава, што эканамічны крызіс, з аднаго боку, і посьпехі ў справе выкананьня пяцігадовага пляну—з другога, асабліва абвастраюць у сучасны момант небясьпеку інтэрвэнцыі.

„Абвастрэньне клясавай барацьбы ў капіталістычных краінах, імкненьне буржуазіі выйсьці з крызісу за кошт СССР, страх перад сацыялізмам, які перамагае, крушэньне тактыкі, разьлічанай на капіталістычнае перараджэньне СССР і падтрыманьне адміраючых контр-рэвалюцыйных клясаў (кулацтва, гарадзкая нэпманская буржуазія), пабудзіла сусьветную буржуазію перайсьці да тактыкі „удару звонку шляхам эканамічнай блёкады і ваеннай інтэрвэнцыі" (Рэзал. пленуму).

Высьвятліць ролю Францыі, гэтага „жандара Эўропы" у справе падрыхтоўкі вайны супроць СССР.

„Для распрацоўкі і кіраўніцтва ваеннымі апэрацыямі супроць СССР была створана пры францускім генштабе міжнародная камісія з удзелам прадстаўнікоў ангельскага і польскага генштабаў" (Рэзал.). Францускі генштаб кіраваў дзейнасьцю контр-рэвалюцыйных, шкодніцкіх арганізацый у СССР.

Паказаць, што апіраючыся галоўным чынам на Польшчу, Францыя ўвесь час імкнецца стварыць блёк Польшчы, Румыніі, Фінляндыі, дзяржаў Малай антанты супроць СССР.

Цэлы рад „аграрных" канфэрэнцый (з удзелам Румыніі, Вэнгрыі, Юга-Славіі, Баўгарыі і інш.) мае сваёй сапраўднай мэтай зусім не ўзгадненьня пытаньняў збожжавага экспарту ў сувязі з крызісам, але падрыхтоўку вайны супроць СССР.

Рост ваеннай прамысловасьці ў Польшчы, Чэха-Славакіі, Румыніі, будаўніцтва стратэгічных чыгунак, морскіх партоў, фашызацыі Румыніі, Польшчы, Юга-Славіі, Фінляндыі, фінансаваньне рэштkaў белагвардзейцаў усё гэта мае сваёй мэтай тую-ж падрыхтоўку вайны з СССР.

Неабходна застанавіцца і на ролі Амэрыкі ў гэтай падрыхтоўцы, дзе была створана спэцыяльная камісія (камісія Легге) для забясьпечаньня інтэрвэнцыянісцкіх армій.

Адначасова ўжо арганізавана эканамічная блёкада СССР, шляхам раду мерапрыемстваў супроць савецкага вывазу ў Францыю, Бэльгію, ПАЗШ, Канаду пад шыльдай барацьбы з савецкім „дэмпінгам", які быццам бы зьяўляецца прычынай сусьветнага крызісу і барацьбы з прадуктамі „прымусовай працы".

Гэтыя казкі аб „савецкім дэмпінгу" і „прымусовай працы" (сапраўдны дэмпінг і сапраўднае нявольніцтва існуюць у краінах ка-

піталізму), якія старанна распаўсюджваюцца пры дапамозе міжнароднай сацыял-дэмакратыі маюць сваёй мэтай маральную падрыхтоўку інтэрвэнцыі супроць СССР.

Прывесьці слухачоў да разуменьня таго, што „ва ўмовах паглыбляючагася крызісу і ўсё больш нарастаючай няўстойлівасьці ў капіталістычных краінах пры адначасова адбываючымся ўзмацненьні эканамічнай і палітычнай магутнасьці Саюзу ССР, узброяны напад на Саюз ССР азначае цяпер галоўную небясьпеку для тых, хто адважыцца парушыць мір і напасьці на Савецкі Саюз“ (Рэз. VI зьезду Саветаў СССР).

## IV.

Паказаць, што вялізарнейшае зьбядненьне мас у зьвязку з крызісам—наступленьне буржуазіі на жыцьцёвы ўзровень рабочае клясы прыводзіць да абвастрэньня клясавай барацьбы, рэвалюцыйнага ўздыму і нарастаньня прадпасылак рэвалюцыйнага крызісу ў радзе капіталістычных краін.

У барацьбе супроць здані рэвалюцыі, буржуазія ўсё больш і больш ўжывае мэтады фашызму ў барацьбе з рабочай клясай.

Неабходна падкрэсьліць тую думку, што паміж фашызмам і буржуазнай дэмакратыяй ня існуе непраходнай сьцяны, што абедзьве гэтыя формы, зьяўляючыся формамі буржуазнай дыктатуры, перапляталоцца паміж сабой, што ў барацьбе за дробна-буржуазныя і рабочыя масы фашызм, гэта агентура фінансавага капіталу, ужывае антыкапіталістычную сацыяльную дэмагогію (таксама, як і сацыял-дэмакратыя).

Паказаць, што поўнае супроцьстаўленьне фашызму—парляманцкай буржуазнай дэмакратыі зьяўляецца тэорыяй сацыял-дэмакратыі, пры дапамозе якой апошняя імкнецца апраўдаць і прыкрыць фашысцкія мэтады расправы з рабочымі з боку буржуазіі.

„Лібэральнае супроцьстаўленьне фашызму буржуазнай дэмакратыі і парляманцкіх форм дыктатуры буржуазіі яе адкрыта фашысцкім формам зьяўляецца адбіткам сацыял-дэмакратычных уплываў у камуністычных радох“ (Рэзалюцыя).

„Разгортваньне рэвалюцыйнага руху знайшло сваё праяўленьне:

а) у далейшым абвастрэньні стачачнай барацьбы і руху беспрацоўных“... (Рэзалюцыя).

Неабходна падкрэсьліць, што ўсе прадбачаньні трацкістаў і правых апартуністаў аб немагчымасьці эканамічных баёў у час крызісу пацярпелі крах. Стачачны рух, як раз асабліва разгарнуўся ў тых краінах (Гэрманія, Англія) і тых галінах прамысловасьці (горная, тэкстыльная, мэталёвая, якія асабліва паражаны крызісам (гл. „Праўду“ за 1-V-31 г., арт. „Рэвалюцыйны ўздым і эканамічная стачка“).

б) у разьвіцьці і замацаваньні Саветаў і Чырвонай арміі на значнай частцы тэрыторыі Кітая.

У Кітаі існуе савецкая ўлада на тэрыторыі з насельніцтвам у 50—60 млн. жыхароў. Чырвоная армія налічвае каля 200.000 чал. і падтрымліваецца шматлікай Чырвонай гвардыяй. На савецкай тэрыторыі праводзіцца ўраўніцельны перадзел зямлі, канфіскацыя памешчыкаў растоўшчыкоў джэнтры, канфіскацыя фабрык чужаземных капіталістаў, разгортваецца клясавая барацьба з кулаком на вёсцы. Пры наяўнасьці адставаньня яшчэ пралетарскага руху ў горадзе ад размаху сялянскай рэвалюцыі ўсё-ж такі „факт стварэньня саветаў і Чырвонай арміі абумоўлівае посьпех гегемоніі пралетарыяту ў нацыянальна-рэвалюцыйным руху, у антыімпэрыялістычнай і аграрнай рэвалюцыі, гегемоніі, якая замацоўваецца ўжо ў пачатках дзяржаўнай улады“ (Рэзалюцыя).

„в) ва ўзьмацненьні рэвалюцыйнага руху ў калёніях“.

Тут трэба паказаць разгортваньне рабочага і сялянскага руху ў Індыі, якое знайшло свой выраз у радзе ўзброеных паўстаньняў у Пешавары, Шолапуры, Бірме, Берары, Коўнпуры і г. д. Пралетарыят і сялянства ў сваім руху супроць імпэрыялізму і нацыянальнага кангрэсу, які выяўляе інтарэсы індыйскай буржуазіі, якая стала на шлях контр-рэвалюцыйных згод з імпэрыялізмам, хутка адыходзіць ад контр-рэвалюцыйнага гандызму і нацыянал-рэфармізму.

„Пасьля заключэньня згоды з віцэ-каралём у „твердыне“ гандызму Ахмадабадзе моладзь не дала гаварыць Ганды. У Бомбее рабочыя сарвалі сьцяг нацыянальнага кангрэсу і ўзьнялі чырвоны сьцяг рэвалюцыі ў прысутнасьці Ганды, не дапусьціўшы яго выступленьня, прадстаўнік рэвалюцыйных рабочых ахарактарызаваў „сьвятошу“ як здрадніка і агента капіталістаў. „Яшчэ паўгода назад,—піша „Таймс“,—гэткая сустрэча Ганды ў Індыі была-б немагчымай“. У Карчы абураныя масы хацелі расправіцца са здраднікам Ганды. („Правда“, 3-IV-31 г.).

У Інда-Кітаі рэвалюцыйны рух рабочых і сялян знаходзіцца ў асноўным пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі.

г) „У разьвіцьці рэвалюцыйнага сялянскага руху“.

Апроч калёній мы бачым праявы рэвалюцыйных выступленьняў сялянства ў Польшчы (Зах. Украіне і Зах. Беларусі), у Гішпаніі.

Рэвалюцыйны рух у Заходняй Беларусі пашыраецца. Узмацняецца стачачная барацьба рабочых, барацьба сялянства. 1-га мая дзесяткі тысяч рабочых і сялян дэманстравалі ў Польшчы, Зах. Украіне і Зах. Беларусі пад лёзунгамі кампартыі: „За савецкую Польшчу“, „Прэч падрыхтоўку інтэрвэнцыі супроць СССР“.

На Зах. Беларусі пашыраецца барацьба сялянства супроць падаткаў, супроць продажу маемасьці за нядоімкі, супроць фашысцкага зямляўпарадкаваньня, супроць бясплатнай працгужпавіннасьці, павялічваюцца выпадкі высячкі дзяржаўнага і памешчыцкага лесу. Не праходзіць дня, каб ня было сутычкі працоўных сялян з паліцыяй, памешчыкамі і кулакамі. Узмацняецца рэвалюцыйнае браджэньне сярод салдат (Вілейка, Вільня і інш. месцы.).

Польскі фашызм шукае поваду і вядзе энэргічную падрыхтоўку да правядзеньня ў Зах. Беларусі гэткай-жа „пацыфікацыі“, раду карных экспэдыцый, як на Зах. Украіне, у мэтах разгрому рабоча-сялянскага руху, кампартыі ЗБ і „замірэньня“ крэсаў да часу вайны з СССР.

д) „У росьце палітычнага і арганізацыйнага ўплыву раду буйнейшых кампартый“.

Так, напрыклад, у Гэрманіі кампартыя вырасла ў апошні час на 50 проц., заваёўвае ўсё больш новыя пласты эксплёатуемых для пралетарскай рэвалюцыі пад лёзунгам „Народнай рэвалюцыі“. На апошніх выбарах КПГ атрымала 4,6 млн. галасоў. Значна ўзмацніліся кампартыі Кітая, Чэха-Славакіі, Італіі, Інда-Кітая, аформілася КП у Індыі. Павялічыўся ўплыў кампартыі сярод сялянства (напрыклад, КП Польшчы).

е) „У рэзкім узмацненьні апазіцыйнага браджэньня ўнутры сац.-дэмакратыі“.

Сацыял-дэмакратычныя правадыры сваёй здрадніцкай палітыкай адносна рабочае клясы, сваёй падрыхтоўкай інтэрвэнцыі супроць СССР, садзейнічаньнем росту мілітарызму і падатковага цяжару — усё больш трацяць аўтарытэт сярод радавой с.-д. масы.

Так, напрыклад, у Гэрманіі.

„Некаторыя сацыял-дэмакратычныя мясцовыя арганізацыі і акруговыя зьезды пастанавілі прасіць парляманцкую фракцыю адхіліць крэдыты на пабудову броненосца „Б“. Кіраўніцтва Браслаўскай арганізацыі партыі паведаміла парляманцкую фракцыю: Шматлюдныя сходы сацыял-дэмакратыі энэргічна пратэстуюць супроць асыгнаваньня грошай на пабудову броненосца „Б“. У выпадку асыгнаваньня ўзьнікнуць вялікія цяжкасьці“ (з прамовы камдэпутата Штэкера ў рэйхстазе. („Правда“, 15-IV-31 г.).

ж) „у нарастаньні апазыцыі дробна-буржуазных мас города, служачых і чыноўнікаў“.

Гэтыя масы таксама церпяць ад крызісу, ад павялічэньня падатковага цяжару, наступленьня на зарплату.

Так, напрыклад: „Са сьнежня 1930 г. да лютага 1931 г. у Гэрманіі тарыфныя стаўкі 6 млн. рабочым, служачым і чыноўнікам былі зьніжаны на 6—8 проц.“

Таксама і ў Аўстрыі: „мяркуецца скараціць зарплату ўсім дзяржаўным служачым. Гэтае зьніжэньне зьбіраюцца паднесьці аўстрыйскім дзяржаўным служачым пад відам „надзвычайнай ахвяры“ ў карысьць дзяржавы“.

У Італіі маем з „першага сьнежня агульнае зьніжэньне зарплаты чыноўнікам на 12 проц. Зараз падрыхтоўваецца далейшае агульнае зьніжэньне зарплаты рабочым на 10 проц., чыноўнікам і служачым— на 12 проц. („Правда“, 15-IV-31г.“)

Разабраўшы ўсе праявы рэвалюцыйнага ўздыму неабходна падкрэсьліць, што найбольшы рэвалюцыйны ўздым мы маем у тых краінах, дзе найбольш моцна адчуўся цяжар крызісу. У Гэрманіі, дзе

цяжар крызісу для працоўных мас абвастраецца вынікамі пляну Юнга, у Польшчы, дзе да цяжару эканамічнага крызісу далучаецца цяжар мілітарызму ў сувязі з падрыхтоўкай вайны супроць СССР і нацыянальныя супярэчнасьці ў Гішпаніі, у калёніях.

У Гішпаніі, дзе надта яшчэ моцны рэшткі фэўдальнага рэжыму, дзе 2 проц. агульнага ліку ўласьнікаў уладае 67 проц. усіх зямельных угодзьдзяў, дзе 38,5 проц. уласьнікаў уладаюць вучасткамі менш 1 гэктару, дзе дагэтуль яшчэ суадносіны паміж сялянамі і памешчыкамі захавалі рысы фэўдалізму, дзе надта вялікая эксплёатацыя каталіцкай царквы, дзе ўраджай самы нізкі ў Эўропе, дзе ў лепшы час зарплата кваліфікаванага рабочага (у 29 г.) складала толькі 45 проц. сярэдняй зарплаты кваліфікаванага рабочага ў Англіі, дзе сельска-гаспадарчыя рабочыя прымушаны жыць супольна з сем'ямі ў стайнях, па 20-30 чалавек разам, дзе няма ніякага сацыяльнага страхаваньня—вядома цяжар як аграрнага, так і прамысловага крызісу, асабліва востра выявіўся.

Паступовае нарастаньне рэвалюцыйнага руху пралетарыяту і сялянскай беднаты прывяло да падзеньня манархіі і нават да арганізацыі саветаў рабочых і сялянскіх дэпутатаў у Барсэлоне і на поўначы Гішпаніі. Але, буржуазіі ўдалося ўтрымаць уладу ў сваіх руках і яна імкнецца цяпер выкарыстаць „рэспубліканскія ілюзіі“, побач з фашысцкім тэрорам для затрыманьня рэвалюцыйнага руху рабочых і сялян. Гэта адбываецца пры дапамозе с.-д. і анархістаў.

Задача кампартыі ў тым, каб змагацца за захоп памешчыцкай і царкоўнай зямлі, за стварэньне фабзаўкомаў, за адзіны фронт рабочых, за пераход арміі ў бок народу, за далейшае нарастаньне рэвалюцыйнага крызісу, за рэвалюцыйна-дэмакратычную дыктатуру пралетарыяту і сялянства, з далейшым перарастаньнем яе ў сацыяістычную рэвалюцыю.

Увесь гэты разьдзел павінен прывесьці слухачоў да разуменьня наступнага месца з рэзалюцыі пленуму:

„Рэвалюцыйны ўздым, які разгортваецца побач з непасьпяховасьцю спроб буржуазіі знайсьці вырашэньне асноўных супярэчнасьцяй капіталістычнага сьвету (асабліва ў калёніях), стварае ўмовы для нарастаньня прадпасылак рэвалюцыйнага крызісу ў Гэрманіі і Польшчы, для далейшага разьвіцьця рэвалюцыйнага крызісу ў Кітаі і Індыі і высьпяваньні прадпасылак рэвалюцыйнага крызісу у другіх краінах у залежнасьці перш за ўсё ад здольнасьці кампартый мабілізаваць і стаць на чале руху мас супроць наступленьня капіталу і палітычнай рэакцыі, аб яе здольнасьці паказаць пралетарыяту і другім працоўным масам на падставе іх уласнага вопыту неабходнасьць рэвалюцыйнага выхаду з крызісу капіталізму“.

## V.

Паказаць, што для таго, каб справіцца з гэтай задачай кампартыі павінны цалкам выкрыць здрадніцкую дзейнасьць міжнароднай сацыял-дэмакратыі.

„Усё разьвіцьцё сацыял-дэмакратыі з часу вайны і ўзьнікненьня савецкай улады ў СССР ёсьць бязупынны працэс эвалюцыі да фашызму“ (Рэзалюцыя).

Міжнародная с.-д. падтрымлівала буржуазію ў час імпэрыялістычнай вайны, у час інтэрвэнцыі супроць савецкай Расіі, душыла рукамі Носке і Цэргібеляй рэвалюцыю ў Гэрманіі і іншых краінах, падтрымлівала капіталістычную рацыяналізацыю, здраднічала ў час эканамічных боек пралетарыяту, падтрымлівала і падтрымлівае калёніяльнае драпежніцтва і барацьбу супроць кітайскай і індыйскай рэвалюцыі, рукамі і пры дапамозе сацыял-дэмакратыі праводзяцца надзвычайныя ваенныя законы і асыгнаваньні на ўзбраеньне (прынамсі, пабудова броняносцаў у Гэрманіі).

У час крызісу с.-д. дапамагае ажыцьцявіць наступленьне буржуазіі на зарплату, на сацыяльнае страхаваньне, дапамагае павялічыць цяжар падаткаў.

Міжнародная с.-д., на чале з самай моцнай партыяй 2-га нтэрнацыяналу, нямецкай с.-д., праводзіць самую энэргічную падрыхтоўку вайны супроць СССР, шляхам падтрыманьня і распаўсюджваньня паклёпаў аб савецкім „дэмпінгу“, „прымусовай працы ў СССР“, краху 5-годкі (нават у той час, калі ўжо і буржуазныя газэты ня могуць ня прызнаць посьпехаў 5-гадовага пляну), распаўсюджваньне паклёпаў „аб чырвоным імпэрыялізьме“, аб тым, што „вайна пагражае са Усходу“.

Другі інтэрнацыянал падтрымліваў шкодніцкую і шпіёнскую дзейнасьць „Саюзнага Бюро меншавікоў“ у СССР.

„Усе гэтыя і падобныя да іх факты навочна выкрываюць контр-рэвалюцыйную ролю міжнароднай сацыял-дэмакратыі, як галоўнай сацыяльнай апоры буржуазіі ў яе барацьбе з пралетарыятам. Для гэтага выкрыцьцё сацыял-дэмакратыі, выкрыцьцё 2-га інтэрнацыяналу, вызваленьне рабочых мас з пад уплыву сацыял-дэмакратыі—ёсьць чарговая задача камуністычных партый, бяз вырашэньня якой немагчыма пасьпяховая барацьба пралетарыяту за сваё вызваленьне ад ланцугоў капіталізму„ (Рэзалюцыя).

## VI.

Пераходзячы да гэтага разьдзелу трэба зноў падкрэсьліць, што далейшае нарастаньне рэвалюцыйнага крызісу знаходзіцца „у залежнасьці перш за ўсё ад здольнасьці кампартый мабілізаваць і стаць на чале руху мас“.

Але трэба сказаць, што рэвалюцыйны крызіс яшчэ не наступіў—перш за ўсё дзякуючы адставаньню кампартый ад радыкалізацыі мас, дзякуючы таму, што кампартыі досыць часта яшчэ пляліся ў хвасьце „раду буйнейшых рэвалюцыйных рухаў: „выступленьняў беспрацоўных, стачак і сялянскіх рухаў“ (Рэзалюцыя), недастаткова вялі барацьбу за штодзенныя інтарэсы рабочых, недастаткова ўвязвалі гэтую барацьбу з барацьбой за дыктатуру пралетарыяту: у пасыўнасьці некаторых кампартый у справе барацьбы з фашызмам

(пасыўнасьць кампартыі Фінляндыі ў час лютаўскага фашысцкага перавароту); у слабасьці работы ў арміі, недастатковасьць барацьбы супроць небясьпекі вайны і інтэрвэнцыі; у недастатковым падтрыманьні з боку кампартый імпэрыялістычных краін рэвалюцыйнага руху ў калёніях, недастатковай барацьбе з сацыял-фашызмам.

Ідэалёгічным апраўданьнем гэтага адставаньня зьяўляецца тэорыя „мэханічнага краху капіталізму“. Гэта тэорыя, выходзячы з факту загніваньня капіталізму і ўсё большага абвастрэньня ўсеагульнага эканамічнага крызісу—скачваецца да думкі аб нямінучай, так казаць, „самацёчнай“ пагібелі капіталізму.

Затушоўваецца думка аб неабходнасьці актыўнай рэвалюцыйнай барацьбы за зьнішчэньне капіталізму, за дыктатуру пралетарыяту.

Поруч з гэтай тэорыяй, стаіць тэорыя „стадый рэвалюцыйнага разьвіцьця“ згодна якой рэвалюцыйнаму крызісу павінен папярэджваць палітычны крызіс. „Характарызаваць сучаснае становішча ў некаторых краінах капіталізму як нейкі палітычны крызіс“ у адрозьненьні ад яшчэ не наступіўшага рэвалюцыйнага крызісу азначала-б аб'ектыўна апраўдаць гэта адставаньне, адцягваць увагу партыі ад яго хутчэйшага перамаганьня. („Правда“ 24-IV-31 г., перадавая).

Простым вынікам гэтай тэорыі зьяўляецца разгляданьне фашызму толькі як прадукту “разлажэньня“ капіталізму. Адсюль праваапартуністычная практыка слабай барацьбы з фашызмам. Забываюцца аб тым, што Фашызм ня толькі прадукт „разлажэньня“, але актыўны фактар разгрому рабочага руху.

Наступныя праявы правага апартунізму — супроцьстаўленые буржуазнай дэмакратыі фашызму (гл. вышэй), што вядзе і да недаацэнкі ролі сацыял-фашыстаў у барацьбе з рабочай клясай. Як правыя рэнэгаты, так і трацкісты разглядаюць сацыял-дэмакратыю, як ворага, супраціўніка фашызму.

Правы апартунізм праяўляецца і ў недаацэнцы стачачнай эканамічнай барацьбы ў час крызісу, а значыцца і ў недаацэнцы работы як унутры рэфармісцкіх прафсаюзаў па арганізацыі масавых прафапазыцый, так і работы па арганізацыі самастойных рэвалюцыйных прафсаюзаў.

Вось, што напрыклад, піша орган правых ранэгатаў, выключаных з КПГ брандлерыянцаў „Корань памылкі КПГ пры стварэньні новых „рэвалюцыйных“ прафсаюзаў ляжыць ва ўпэўненасьці, быццам новыя прафсаюзы ў сілах весьці больш пасьпяхова, чым рэфармісты, барацьбу за павышэньне зарплаты і скарачэньне рабочага часу“.

Правы апартунізм праяўляецца і ў недаацэнцы небясьпекі вайны і інтэрвэнцыі супроць СССР, якая вынікае з недаацэнкі расшатваньня капіталістычнай стабілізацыі.

Побач з праявамі правага апартунізму ёсьць і рад „левых„ загібаў.

Так, у асобных зьвеньнях камуністычных партый у сувязі з ростам рэвалюцыйнага ўздыму ўзьнікае ўпэўненасьць, што пры рэвалю-

цыйным уздыме эканамічныя баі трацяць сваё значэньне. „Так было напрыклад, у Кітаі, дзе пад уплывам Лі-лі-сяна эканамічная барацьба была выключана, як элемэнт рэвалюцыйнай барацьбы і была заменена выключна лёзунгам палітычнай стачкі і ўзброенага паўстаньня. Чырвоныя прафсаюзы былі распушчаны„ („Правда“ 1 мая 1931 г.).

„Левы“ загіб знайшоў свой выраз і ў несваячасовым насаджэньні саўгасаў і калгасаў у некаторых мясцох у Кітаі „Левы“ загіб выявіўся ў пэўным суцэльным прыраўнаньні сацыял-фашызму да фашызму, у забываньні розьніцы паміж сацыял-фашысцкімі вярхамі і радавой сац.-дэмакратычнай рабочай масай.

Гэта вяло да зрыву тактыкі „адзінага“ фронту зьнізу, узмацняла ўплыў с.-д. на пралетарыят.

Разабраўшы гэтыя канкрэтныя праявы правага і „левага“ ухілу прывесьці слухачоў да разуменьня наступнай вытрымкі з рэзалюцыі пленуму:

З часу X пленуму ВККІ цалкам разгромлены правыя ва УсеКП(б), разьбіты правыя і прымірэнцкія групоўкі ў кампартыях капіталістычных краін, якія адбывалі ўнутры камуністычнага руху націск наступаючага капіталу і сацыял-дэмакратыі. Усё гэта, садзейнічаючы бальшавіцкай кансалідацыі сэкцый КГ на падставе пасьпяховай барацьбы як супроць правага апартунізму, які застаецца галоўнай небясьпекай, так і супроць „левага“ апартунізму, які яго жывіць, стварыла ўмовы для вырашэньня важнейшай задачы кампартый-заваёвы большасьці рабочае клясы шляхам самастойнага кіраўніцтва клясавымі баямі і ліквідацыі масавай базы сац. дэм. у мэтах пізрынуцьця капіталізму і заснаваньня пралетарскай дыктатуры“ (Рэзалюцыя).

Пасьля гэтага перайсьці да характарыстыкі асноўных чарговых задач, якія стаяць перад кампартыямі.

**Першая задача**—барацьба за большасьць рабочае клясы ў мэтах падрыхтоўкі яе да рашаючых баёў за дыктатуру пралетарыяту.

Гэта задача можа быць вырашана толькі шляхам арганізацыі адзінага фронту зьнізу, шляхам бязупыннага выкрыцьця здрадніцкай ролі сац. фашыстаў, шляхам самастойнага кіраўніцтва кампартыяй як палітычнымі, так і эканамічнымі баямі пралетарыяту.

Асноўныя лёзунгі кампартый Захаду—барацьба супроць звальненьня рабочых, за павышэньне зарплаты, за 7-мігадзінны рабочы дзень, за сацстрах за кошт капіталістаў, супроць фашысцкага тэрору, за разброеньне фашыстаў, узброеньне рабочых, супроць імпэрыялістычнай палітыкі ў калёніях, за канфіскацыю зямлі памешчыкаў у карысьць працоўнага сялянства і г. д.

**Другая задача—**Барацьба супроць імпэрыялістычнай вайны і ваеннай інтэрвэнцыі ў СССР.

Кампартыі павінны выкрываць і растлумачваць шырокім масам значэньне кожнага канкрэтнага кроку буржуазіі па падрыхтоўцы да вайны і інтэрвэнцыі супроць СССР. Выкрываць ролю сац.-дэм. у падрыхтоўцы да інтэрвэнцыі. Выкрываць, што „лёзунгі буржуазіі“ і са-

цыял-пацыфістаў аб „барацьбе за разбраеньне“, аб „прымірэньні народаў“, аб „збліжэньні“ былых варожых краін зьяўляюцца ня лёзунгамі зьбліжэньня народаў і забесьпячэньня міру, а прыкрыцьцём стварэньня фронту супроць СССР“ (Рэзалюцыя).

Кампартыі павінны шырока папулярызаваць Ленінскія лёзунг аб ператварэньні імпэрыялістычнай вайны ў грамадзянскую, аб ператварэньні вайны з СССР—у вайну супроць уласнай буржуазіі.

„Ад актыўнасьці кожнага паасобнага камуніста залежыць, ці ператворыцца спачуваньне да рабочае клясы СССР з боку шырочайшых мас рабочых, працоўных сялян, прыгнечаных нацый капіталістычных краін у актыўную рэвалюцыйную барацьбу супроць небясьпекі вайны і ваеннай інтэрвэнцыіі, супроць СССР, або капіталістам удасца зноў павесьці працоўных на братазабойную вайну“ (Рэзалюцыя).

У канцы ўсяе гутаркі прывесьці слухачоў да разуменьня наступнай вытрымкі з рэзалюцыі пленуму.

„Толькі вядучы настойлівую сыстэматычную штодзенную работу, толькі ажыцьцяўляючы на справе барацьбу за штодзенныя інтарэсы рабочых, выкарыстоўваючы нават малейшыя праявы пратэсту рабочых мас супроць эксплёатацыі і фашысцкай рэакцыі, Кампартыі здолеюць рэалізаваць шырочайшы адзіны фронт зьнізу, разьбіць сацыял-дэмакратыю, стварыць масавыя рэвалюцыйныя прафсаюзы або рэвалюцыйную прафапазыцыю, заваяваць большасьць рабочае клясы і павесьці рабочую клясу да рашаючых баёў за пралетарскую дыктатуру“ (Рэзалюцыя).

## Літаратура.

### Для слухачоў:

Даклады Мануільскага, Кашэна, Ленскага, або „Рэзалюцыя пленуму ВККІ“—„Правда“, 24-IV-31 г.

(У залежнасьці ад падрыхтаванасьці аўдыторыі цалкам, або ў галоўнейшых вытрымках; для найменш падрыхтаванай аўдыторыі—Першамайская адозва КІ—„Правда“, 30-IV-31 г.).

### Максымум:

„Супроць дыктатуры буржуазіі—за дыктатуру пралетарыяту“, „Правда“, 24-IV-31 г.

### Для кіраўніка дадаткова:

„Вынікі XI пленуму ВККІ“—„Чырв. Інтэрнацыянал Прафсаюзаў“, № 8—31 г.
„Сусьветны капіталізм у ціскох крызісу“—„Правда“, I-V-31 г.
„Рэвалюцыйны ўздым і эканамічныя стачкі“—„Правда“—I-V-31 г.
Даклады Мануільскага, Кашэна, Тэльмана, Ленскага.

Максымум:

„Праўда"—15-IV-31 г., стр. 3 і 4 цалкам.
„Барацьба вакол аўстрыйска-нямецкай згоды" — „Праўда", 12-IV-31 г.
„На шляхох гішпанскай рэвалюцыі" „ 25 „
„Рэвалюцыйны рабочы рух у Гішпаніі „ 28 „
„Канец гішпанскай манархіі" „ 16 „
„Рост рэвалюцыйнага ўздыму ў Польшчы" „ 18 „
„Заходня-Украінскае працоўнае сялянства ў барацьбе з акупацыяй"—
„Бальшавік Беларусі", № 3, 31 г.
„Індыя на новым этапе" — „Праўда", 3-IV-31 г.
„Бальшавік", № 7—31 г.
„Бальшавік", № 8—31 г.

Склаў **О Р Л І С.**

Рэдкалегія: **Модэль**—(адказны рэдактар), **Гаеўскі, Улазаў, Гурвіч, Голанд.**

Галоўлітбел № 1115.
Вучэбная друкарня Камвузу.

Тыраж 5.000 экз.
Заказ № 240.

